*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# Наша слова

Газета выходзіць з сакавіка 1990 года | № 43(377) | 4 ЛІСТАПАДА 1998 г.

## Шаноўныя чытачы "Нашага слова"

Вось і мінуў год, як нашая газета ў аднолёным выглядзе пачала выходзіць у Лідзе. Першы нумар выйшаў роўна год назад 1 лістапада. За гэты час было выдадзена 46 нумароў. Быў сарваны выхад аднаго нумара па віне Гарадзенскага абласнога ўпраўлення па друку, калі Лідскай друкарні было забаронена друкаваць "Наша слова". Тры разы выхад газеты затрымліваўся на адзін дзень па розных тэхнічных прычынах у тым ліку па такой банальнай, што проста не было чым заплаціць друкарні.

За год у значнай ступені была аднолена рэпутацыя газеты, пра што сведчыць рост колькасьці падпісчыкаў. У лістападзе да тых 1470 што былі ў кастрычніку дадалося яшчэ 107. Газету можна купіць у кіёсках "Белсаюздруку" усіх раёнаў Беларусі.

Мы планавалі з гэтага нумара пачаць выхад на 8 палосах, але не справіліся з структурнай перабудовай дзейнасці рэдакцыі. Таму васьміпалоснае "Наша слова" трэба чакаць, пачынаючы з аднаго з лістападаўскіх нумароў. Тут у нас ізноў узнікае цэлы шэраг праблем, але час наспеў. Мы пастараемся ў кожным нумары паведамляць пра гэтыя праблемы. На васьмі палосах мы зможам даваць і вялікія артыкулы і літаратурныя творы. Але на сёння рэдактарскі партфель не надта тоўсты. І хоць ёсць матэрыялы, якія ляжаць па паўгода і якія будуць скарыстаны зараз, але іх не так шмат. Тым не менш мы з пэўным аптымізмам глядзім наперад. Бо адчуваем, што "Наша слова" на Беларусі патрэбна, а пакуль газета будзе запатрабавана, датуль яна будзе жыць.

Мы выказваем падзяку ўсім чытачам, хто падпісаў ці купіў нашую газету і ўсім аўтарам, якія бескарысна і самаахвярна пісалі нам на працягу гэтага года. Разам мы сіла і сіла грунтоўная. І пакуль мы ёсць, жыве "Наша слова" і жыве Беларусь.

*Станіслаў Суднік.*

## Зварот да Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Сяргея Лінга, прыняты 22 кастрычніка 1998 года на мітынгу, арганізаваным ТБМ імя Францішка Скарыны і Маладзёжным грамадскім аб'яднаннем "Хлоя" у падтрымку беларускамоўнай адукацыі і ў знак пратэсту супраць зачынення беларускамоўных школ і класаў.

Ва ўмовах змяншэння беларускамоўных дзіцячых садкоў, класаў і школ, ліквідавання беларускамоўных плыняў у ВНУ, парушэння канстытуцыйнага права бацькоў на выбар мовы навучання, не выканання Закона РБ " Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон РБ " Аб мовах у РБ" ад 13 ліпеня 1998 г., удзельнікі мітынгу патрабуюць даручыць:

1) Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь забяспечыць дакладнае вызначэнне статусу беларускамоўных школ і дзіцячых садкоў з тым, каб у кожным мікрараёне горада, у кожным гарадку ці мястэчку працавалі беларускамоўныя школы, захоўваючы свой статус на прцягу ўсёй дзейнасці ўстановы.

2) Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь распрацаваць рэальны механізм ажыццяўлення права бацькоў на выбар мовы навучання, права выкладчыкаў на права мовы выкладання з тым, каб спыніць парушэнне гэтых правоў.

3) Адміністрацыі кожнай школы распрацаваць праграму прапаганды беларускамоўнай адукацыі сярод бацькоў і вучняў. Кантроль за выкананнем гэтага ўскласці на раённыя аддзелы адукацыі.

4) Да строгага выканання арт. №4 Закона РБ "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон РБ " Аб мовах у РБ" да канца гэтага году ўвесці атэстацыю афіцыйных службовых асоб па валоданні беларускай мовай, а таксама пры неабходнасці арганізаваць для такіх асоб курсы па навучанні беларускай мове.

Парушэнне арт.№ 4 Закона РБ "Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Закон РБ " Аб мовах у РБ", які абавязвае афіцыйных работнікаў дзяржаўных органаў валодаць беларускай мовай, павінна прыводзіць да звальнення з займанай пасады.

Беларуская мова мусіць набыць у Рэспубліцы Беларусь рэальны статус дзяржаўнай — і абавязак урада забяспечыць гэта ў паўсядзённай практыцы жыцця грамадства.

Жыве Беларусь!

## Блізкая гісторыя
## Паўсядзённае жыццё ў Беларусі: 1945 -1965
## Конкурс для школьнікаў

Архіў Найноўшай гісторыі ( пры Беларускім Гуманітарным Фондзе "Наша Ніва") пры ўдзеле Таварыства Беларускай Мовы імя Ф.Скарыны абвяшчае конкурс "Паўсядзённае жыццё ў Беларусі : 1945 - 1965).

Мы хочам зацікавіць школьнікаў гісторыяй паўсядзённасці блізкага для нас часу — мінулым сваёй сям'і, атачэння, населенага пункта... Мы хочам заахвоціць да самастойнай даследчай працы, якая патрабуе выкарыстанне метадаў дзейнасці гісторыкаў і прыёмаў журналістыкі.




У конкурсе могуць узяць удзел навучэнцы сярэдніх навучальных установ: школ (пачынаючы з сёмага класа), ліцэяў, гімназій, каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў.

Форма конкурснай працы адвольная. Гэта можа быць сачыненне, альбо эсэ, калаж з фотаздымкаў, ці нават фільмаў, інтэрвію і г.д. Галоўнае, праца павінна мець творчы характар. У выпадку нятэкставых формаў да працы павінна быць далучана пісьмовая частка, якая адлюстроўвае працэс даследавання і збору інфармацыі.

Конкурсная праца падаецца на беларускай мове. Тэксты крыніцаў могуць падавацца ў арыгінале.

Праца можа быць падрыхтавана як індывідуальна, так і групай, самастойна альбо з дапамогай настаўніка, бацькоў, бібліятэкара і.г.д. Да працы павінна абавязкова быць далучана метрычка.

Працу трэба даслаць у адным асбніку да 30 снежня (дата вызначаецца па паштовым штэмпелі) на адрас: 220123, Мінск, а/с 71

Вынікі конкурсу будуць абвешчаны 30 студзеня 1999 года. Пераможцаў конкурсу чакае мультымедыйны кампутар (галоўны прыз), а таксама фотаапараты, дыктафоны і мноства іншых прызоў.

Усю патрэбную інфармацыю і парады можна атрымаць ад сакратара конкурса Ірыны Коваль (Тэл. (0172) 74-46-25 з 7.00 да 8.00 і з 22.00 да 23.00), альбо ў газеце "Наша Ніва" (№10 за 1 чэрвеня 1998г).

Жадаем поспехаў.

## Ахвяраванні на ТБМ

| | |
|---|---|
| Леўчанка Людміла Пятроўна, Касцюковічы | 200 000 руб. |
| Антановіч Сяргей Сяргеевіч, Парычы | 50 000 руб. |
| Петруловіч Васілій Іванавіч, Менск | 100 000 руб. |
| Куніцкі Яўген Іванавіч Менск | 100 000 руб. |
| Сп. Жураўскі Менск | 950 000 руб. |
| Іванова В.І. Менск | 350 000 руб. |
| Першы "Б" курс факультэта грамадскай бяспекі Акадэміі міліцыі Рэспублікі Беларусь | 855 000 руб. |
| Петруловіч Васіль Іванавіч, Менсн | 150 000 руб. |
| Дзяніс Сымон Антонавіч, Маладзечна | 100 000 руб. |
| Амерыканская дыяспра | 300 дол. ЗША |
| Навумчык Сяргей, ЗША | 20 дол. ЗША |
| Белаказовіч Базыль, Варшава-Ольштын | 160 000 руб |

## *Беларускія СМІ пра беларускую мову*

*Агляд і каментары Язэпа Палубяткі*

Пакуль што моўная праблема на БТ вырашаецца касметычна, а не на добры вынік: нейкую заўвагу адзін аднаму зробіць ды разам пасмяюцца. А моўнай дысцыпліны няма.

**"Звязда" № 181**
**Марыя Карповіч**

*Паводле канстытуцыі, у нашай краіне зараз двухмоўе. Гэта значыць, што кожны грамадзянін і асабліва кожны чыноўнік павінен ведаць і карыстацца і беларускай мовай і расейскай. Якая сітуацыя з мовамі склалася ў рэальных стасунках, тлумачыць не трэба. Кожны, хто хоча бачыць, той бачыць і чуе. Беларускамоўныя школы зачыняюцца, чынавенства на беларускай мове размаўляць не хоча, робіць выгляд, што беларускай мовы яно, на жаль, не ведае, хоць яшчэ некалькі гадоў таму ведалі яны гэтую мову і нават пядрэнна. Мабыць памяць у нашых чыноўнікаў, як у дзяўчат, кароткая.*

*"Якім будзе адказ беларускага народу?"*

***Пагоня 6.10.98г***

Зрэшты, усе намаганні парынізіць беларушчыну вартыя жалю. Ужо 300 год (калі лічыць ад часу забароны выкарыстання старабеларускай мовы ў афіцыйным справаводстве Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага) шавіністы усіх масцей і часоў спрабуюць прынізіць Беларускую мову. Ды марна! Як жыла яна, светлая, чыстая, родная, так і жыве. І будзе жыць! І праз дваццаць гадоў, і праз 200! І будуць на ёй складацца песні, звяртацца да Бога, пісаць кнігі, прызнавацца ў каханні. А вось пра ненавіснікаў не застанецца і згадкі!

**Дзмітрый Гранчык**
**Народная воля 2.10.98г.**

Усялякія спасылкі на свабоду выбару мовы навучання ў нас гучаць як цынічны фарс. Пад час рэферэндумаў людзей пазбаўлялі права атрымліваць аб'ектыўную, праўдзівую інфармацыю. Магчымасць агітацыі мелі толькі рускія шавіністы. Абаронцам роднага слова ў рот загнаты кляп. А без права атрымліваць інфармацыю не бывае і права выбару. Многія грамадзяне Беларусі былі тады падмануты.

**А.Апанасёнак**
**Народная воля 1.10.98г.**

Мову, як і маці, ніхто не выбірае. А знявага роднай маці — найцягчэйшае злачынства ў свеце.

**Алег Трусаў**
**Народная воля 17.09.98г.**

... Ва ўсялякім разе, я шмат чаго не мог уявіць, але толькі не беларускамоўную прастытутку. Аднойчы сустрэў. На праспекце Францыска Скарыны, каля "Макдональдса". Пагаварылі, я нават купіў ёй марожанае, а потым яна пайшла па сваіх больш сур'ёзных справах ...

Вельмі цешыць, што беларуская мова пачынае сапраўды засвойваць горад.

**Зміцер Бартосік**
**Народная воля 13.10.98г.**

Народ ніколі, ні пры якіх абставінах не адмовіцца ні ад сваёй мовы, ні ад сваёй гістарычнай спадчыны, ні ад сваіх каранёў. Бо ўсё гэта разам з тэрыторыяй, на якой ён жыве і на якой жылі ягоныя продкі складае неабходныя ўмовы для таго, каб быць народам, нацыяй.

Ва ўсіх народаў — вялікіх і малых — менавіта мова стаіць на першым месцы.

***Фелікс Шкірманкоў***
***"Народная воля" 15.10.98г.***

# Завітайце ў Купалаўскі тэатр

Есць у Менску будынак, які даўно стаў помнікам архітэктуры XIX стагоддзя. Без яго ўжо немагчыма ўявіць сабе цэнтр горада. Купалаўскі тэатр заўсёды быў галоўным тэатрам рэспублікі, а гэта вельмі цяжка падтрымліваць статус дзяржаўнага і нацыянальнага на працягу амаль 80 год існавання.

У лістападзе, як і заўсёды, Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы уявіць разнастайны рэпертуар на любы густ. У праграме на месяц пераважаюць камедыі. Ужо 1 лістапада гледачы ўбачаць спектакль па п'есе Ф.Дзюрэнмата "Ромул Вялікі". Гэта "гістарычна - недакладная камедыя" пра заснавальніка горада Рыма, героя легенд і паданняў старажытнага свету. На 2 лістапада заяўлены "беларускія вадэвілі ў 2-х частках", а значыць, нас чакаюць жарты, песні, смех, вяселле.

"Ажаніцца — не журыцца" — гэта спектакль, правераны часам, але які заўсёды будзе заставацца актуальным і вечна маладым.

Пад час прэм'еры народная драма "Страсці па Аўдзею", ці "Крык на хутары", выклікала розныя пачуцці і спрэчкі. Вы зможаце пагдядзець яе 4 лістапада і выказаць свае меркаванні.

Расейская класічная літаратура і драматургія прадстаўлена творамі А.Астроўскага ("Лес" — 5 лістапада) і Ф.М.Дастаеўскага ("Вечны Фама" — 9,29 і 30 лістапада). Дарэчы, гэтая п'еса У.Бутрамеева, напісаная паводле "Сяла Сцяпанчыкава і ягоных жыхароў" Дастаеўскага, на прэм'еры сабрала поўныя залы гледачоў.

Не абышлося і без сучасных расійскіх сатырыкаў-гумарыстаў. Аматары творчасці Міх. Задорнава змогуць пагдядзець 6, 13 і 19 лістапада яго камедыю "Таполевая завея".

14, 15 і 28 лістапада — "Паўлінка", "візітная картка" купалаўцаў, з яе пачыналіся ўсе тэатральныя сезоны. Але ж у гэтым годзе было зроблена выключэнне на карысць "Князя Вітаўта" (24 - 26 лістапада), пастаўленага па п'есе А. Дударава. Гэты спектакль мае падзагаловак "легенды сівой даўніны" і прызначаны ўсім, хто цікавіцца нацыянальнай гісторыяй з пункту гледжання сённяшніх падзей.

Адзін з найлепшых рэжысёраў нашага часу Мікалай Пінігін паставіў на купалаўскай сцэне некалькі спектакляў. Крытыкі называюць лепшымі "Ідылію" і "Касцюмера".

"Ідылія" (11 і 12 лістапада), паводле В.Дуніна-Марцінкевіча, стала сапраўднай з'явай у тэатральным жыцці не толькі ў нашай рэспубліцы, але і за яе межамі, Гэта вельмі вядомая п'еса, першая беларуская "сялянка", якая адкрывае перад гледачамі адзін з прынцыпаў дзеяння: "тэатр у тэатры".

Вялікім поспехам карыстаецца і мінулагодняя прэм'ера М.Пінігіна "Касцюмер" па аднаіменнай п'есе англійскага драматурга Рональда Харвуда. Гэта драма маленькага чалавека, сэнс жыцця якога заключаны ў пакланенні свайму куміру, ідэалу. Вы не пашкадуеце, калі прыйдзеце ў тэатр 18 лістапада.

Сцэна купалаўскага тэатра — самая маленькая ў рэспубліцы сярод тэатраў такога рангу. Але калі вам падабаецца больш камерныя залы, то вас чакаюць на малой сцэне тэатра (вул. Энгельса, 12, амаль насупраць галоўнага будынка). Выбірайце на свой густ:

"Дагарэлая свечачка", маналог актрысы, ці трагічныя сцэны "Смех лангусты". А можа вас прывабіць "Чароўная ноч" (сон без антракту) ці гісторыя ўзаемаадносін "Ледзі Кронкі і мышы". А для гурманаў - вечаровы кактэйль у адной дзеі. "Крывавая Мэры".

Прыходзьце. Выбірайце. Глядзіце.

***Алена Няборская***
***студэнтка***
***Беларускага універсітэта культуры.***

## Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы
РЭПЕРТУАР
З 1 ПА 30 ЛІСТАПАДА 1998 г.

***1 нядзеля*** Ф.ДЗЮРЭНМАТ РОМУЛ ВЯЛІКІ
гістарычна-недакладная камедыя ў 2-х дзеях

***2 панядзелак*** ДЛЕЦКІЯ, М.ЧАРОТ АЖАНІЦЦА — НЕ ЖУРЫЦЦА
беларускія вадэвілі ў 2-х частках

***4 серада*** У. БУТРАМЕЕЎ СТРАСЦІ ПА АЎДЗЕЮ (КРЫК НА ХУТАРЫ)
народная драма

***5 чацвер*** А.АСТРОЎСКІ Л Е С
камедыя ў 2-х дзеях

***6 пятніца*** М. ЗАДОРНАЎ
***13 пятніца*** ТАПОЛЕВАЯ ЗАВЕЯ
***19 чацвер*** камедыя ў 2-х частках

***8 нядзеля*** Э.ЭЛІС, Р.РЫЗ УМОВЫ ДЫКТУЕ ЖАНЧЫНА
трагікамедя ў2-х дзеях

***9 панядзелак*** ПРЭМ'ЕРА
***29 нядзеля*** Ф.М.ДАСТАЕЎСКІ
***30 панядзелак*** ВЕЧНЫ ФАМА
"камарлля" ў 2-х дзеях
п'еса У. Бутрамеева паводле "Сяла Сцяпанчыкава і ягонх жхароў"

***11 серада*** В.Дунін-Марцінкевіч
***12 чацвер*** ІДЫЛІЯ
пастараль у 2-х актах

***14 субота*** Я.КУПАЛА
***15 нядзеля*** ПАЎЛІНКА
***28 субота*** камедыя ў 2-х дзеях

***16 панядзелак*** Е.МІРОВІЧ
***20 пятніца*** Інтымны тэатр ЕЎСЦІГНЕЯ МІРОВІЧА
дывертысмент у трох карцінах

***18 серада*** Р.ХАРВУД КАСЦЮМЕР
п'еса ў 2-х дзеях

***21 субота*** М.МАНОХІН ПАРФЕН І АЛЯКСАНДРА
пастараль у 2-х дзеях

***24 аўторак*** А.ДУДАРАЎ
***25 серада*** КНЯЗЬ ВІТАЎТ
***26 чацвер*** (легенды сівой даўніны)

**РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ**
Пачатак ранішніх спектакляў у 11.30

***1 нядзеля*** В.ГАЎФ КАРЛІК — НОС
музычна-пластычнае відовішча

***2 панядзелак*** ДАЛЕЦКІЯ, М.ЧАРОТ
***5 чацвер*** АЖАНІЦЦА — НЕ ЖУРЫЦЦА
беларускія вадэвілі ў 2-х частках

***15 нядзеля*** Я. КУПАЛА
***29 нядзеля*** ПАЎЛІНКА
камедыя ў 2-х дзеях

### МАЛАЯ СЦЭНА
**(вул.Энгельса, 12)**
Пачатак спектакляў у 19.30

***1 нядзеля*** А.ПЕТРАШКЕВІЧ ДАГАРЭЛА СВЕЧАЧКА ...
маналог актрысы

***5 чацвер*** ДЖ.МАРЭЛ
***22 нядзеля*** СМЕХ ЛАНГУСТЫ
трагікамічныя сцэны

***8 нядзеля*** С. МРОЖАК
***28 субота*** ЧАРОЎНАЯ НОЧ
сон без антракту

***13 пятніца*** Д.ПАТРЫК
***16 панядзелак*** ЛЭДЗІ КРОНКІ І МЫШЫ
гісторыя ўзаемаадносін у 2-х частках

***27 пятніца*** Дзм. БОЙКА КРЫВАВАЯ МЭРЫ
вечаровы кактэйль у адной дзеі

Мастацкі кіраўнік тэатра — лаўрэат Дзяржаўных прэмій, народны артыст Рэспублікі Беларусь Валерый РАЕЎСКІ
Пачатак вячэрніх спектакляў у 19.00
Каса працуе з 14 да 20 гадзін
Выхадны дзень — аўторак
Заказ білетаў і даведкі па тэл.: 27-17-17, 27-42-02

## ГАРАДОЦКІ АДДЗЕЛ АДУКАЦЫІ
## ГАРАДОЦКАЯ РАДА ТБМ ІМ. Ф.СКАРЫНЫ
## ГАРАДОЦКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ

**ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ**

У першай палове лістапада 1998 года ў г.Гарадку ў памяшканні Гарадоцкага краязнаўчага музея адбудуцца другія літаратурна-краязнаўчыя чытанні: "Паэма "Тарас на Парнасе": здабыткі і праблемы", прысвечаныя 25 угодкам адкрыцця Генадзем Кісялёвым асобы Канстанціна Вераніцына.

### ПРАБЛЕМАТЫКА ЧЫТАННЯЎ:

1. Грамадска-палітычныя абставіны і этнакультурны фон часу напісання паэмы.
2. Месца паэмы ў беларускай літаратуры.
3. Мастацкія асаблівасці паэмы, як шэдэўра мастацтва.
4. Даследванні Генадзя Кісялёва, беларускіх літаратараў праблемы аўтарства паэмы.
5. Віцебска-гарадоцкае паходжанне славутай паэмы.
6. Лёс Канстанціна Вераніцына — люстэрка беларускага Адраджэння? ..
7. Мастацкія каштоўнасці другой паэмы К.Вераніцына "Два д'яблы".
8. Выхаваўчы патэнцыял паэмы.
9. Расейска - беларускія сувязі ў паэме.
10. Паэма "Тарас на Парнасе" у сучасным прачытанні.



**Павел Сцяцко,**
*доктар філалагічных навук, прафесар, старшыня Гарадзенскай абласной рады ТБМ імя Францішка Скарыны*

# "З чужой моўнай практыкі..."

(Працяг. Пачатак у №№ 5-7, 12-15, 40-42)

***Газаахоўнік — а не працівагаз.*** Расейскае слова ***противогаз*** нашыя слоўнікі перакладаюць так: ***"Противогаз — процівагаз, супрацьгаз"*** (РБС-53.С.545); ***"Противогаз — процівагаз, -за м."*** (РБС-82.Т.2.С.254; РБС-93.Т.2.С.107). Аднак новыя тэрміналагічныя слоўнікі знайшлі сваё слова — ***газаахоўнік***. Яго падае "Расейска-беларускі вайсковы слоўнік" С.Судніка і С.Чыслава (Менск,1997). На с.165 чытаем: ***"противогаз — газаахоўнік, -ка"***. Яно досыць выразна перадае існасць таго зместу, які абазначае.

***Зімка — а не азімка.*** Пшаніца, якую сеюць увесну, называюць ***яравая*** або ***ярка***, а якую сеюць на зіму — ***зімка.*** У "Беларуска-расійскім слоўніку" М. Байкова і С.Некрашэвіча зафіксавана: ***"Зімовае — озим, зімавы — озимый"*** (С.126). Акадэмічны "Русско-белорусский словарь" пад рэдакцыяй Я.Коласа, К Крапівы і П.Глебкі (М.,1953. С.352) падае: ***озимая пшеница — зімка***. Двухтомавае яго перавыданне 1982 (РБС-81.Т.І.С.593), падаючы тое, што і яго аднатомавы папярэднік (РБС-53), разам з тым кваліфікуе слова ***зімка*** як размоўнае. "Беларуска - рускі слоўнік" 1962 года засведчыў: ***"Зімка ж. озимая пшеница"*** (С.337). А вось двухтомавае яго перавыданне фіксуе ўжо не толькі натуральнае для беларускай мовы ***зімка*** але і: ***"Азімка ж. озимая пшеница"*** (Т.І.Мн., 1988.С.110). Гэта — з падачы некага Вішнеўскага — натуе і ТСБМ (Т.І.Мн.,1977.С.203). А натуральнае слова ***зімка*** кваліфікуецца ўжо як гутарковае. (Т.2. Мн., 1978. С.474).

"Беларуска-рускі слоўнік" 1962 года і яго двухтомавае перавыданне 1988/89 гг. справядліва падаюць на сваіх старонках аднамадэльнае слова ***ярка***. У другім томе чытаем: ***"Ярка II сущ.ж.с.-х. яровая пшеница"***. Менавіта абодва гэтыя словы — ***ярка*** і ***зімка*** і павінны кваліфікавацца як нарматыўныя: ***яравая пшаніца —> ярка, зімовая пшаніца —> зімка***, а не падагнанае пад расейскую мову (***азімка***).

***Выйгранка, знайда, знайдзён — ці выйгрыш, знайдыш.*** Слова ***выйгранка,*** утворанае ад ***выйграць, выйграны*** і мае выразную семантыку. У расейскай мове яму адпавядаюць аж чатыры словы. Так, "Беларускі слоўнік" 1962 года засведчыў: ***"Выйгранка ж. выйгрыш, выгода, польза, расчёт"*** (С.168). Тое самае бачым і ў двухтомавым перавыданні яго (БРС-88.Т.І. С.269).

А вось РБС-53 рас. ***выигрыш*** перакладае толькі як ***выйгрыш***; ***быть в выйгрыше — быць у выйгрышы***. Двухтомавае яго перавыданне (РБС-82.Т.І.С.145) фіксуе ўжо два словы, згадаўшы і беларускае ***выйгранка***, а не толькі расейскае ***выигрыш***. Тут чытаем: ***"Выигрыш м. выйгрыш м., выйгранка ж.; выигрыш во времени — выйгрыш (выйгранка) у часе***. Тое самае засведчыў і РБС-93 (Т.І.С. 252).

А вось "Тлумачальны слоўнік беларускай мовы" ўжо поўнасцю перайшоў на "***выйгрыш***", у ім не знайшлося нават месца для свайго адмысловага слова. Між тым утварэнні з суфіксам ***-ыш*** неўласцівыя беларускай мове. Расейскім лексемам з гэтым суфіксам у беларускай мове адпавядаюць бяссуфіксныя (нульсуфіксаваныя) ці іншасуфіксаваныя ўтварэнні; ***найдёныш, выкормыш — выкармак і кормнік, заморыш — заморак, оборыш — абіркі, зародыш — зародак, слепыш — сляпак, укладыш — укладка, малыш — малое, малеча; ледыш — лядзяк і пад.***

Таму і ***знайдыш*** трэба кваліфікаваць як неўласціва беларускай мове, на яго месцы маем ***знайдзён*** ( ад ***знайдзены — знайдзён***) ці ***знайда***. Слова ***знайда*** занатаванае ў "Беларуска-расійскім слоўніку" М.Байкова і С.Некрашэвіча (Мн., 1926). На с. 129 бачым: ***"Знайда аг. — найдёныш"***. Слова ***знайдзён*** зафіксаваў двухтомавы "Беларуска-рускі слоўнік" (Т.І.Мн.,1988. С.529), але без перакладу яго, а з адсылкаю да "больш блізкага да расейскага" ***знайдыш***, якое мае адпаведнік ***найдёныш***.

*(Працяг у наступным нумары)*

# Першы рэктар

21 кастрычніка 1998 года спаўняецца 120 гадоў са дня нараджэння першага рэктара Беларускага дзяржаўнага універсітэта Уладзіміра Іванавіча Пічэты. Да таго як заняць гэтую пасаду ён ужо быў доктарам расейскай гісторыі, прафесарам Маскоўскага ўніверсітэта. Перад тым на яго жыццёвым шляху былі Екацерынаслаў (1903 -1905 гг.), выкладанне на Прэчысцінскіх курсах для рабочых. Гісторыю Заходняга краю Расейскй Імперыі гэты навуковец ведў стала. Згодна слоў самога Уладзіміра Іванавіча яшчэ ў снежні 1915 года да яго звярнуўся студэнт Яраслаўскага юрыдычнага ліцэя Максім Багдановіч з просьбай б дапамозе вывучэння гісторыі роднага краю.

Яшчэ да 1917 года У. Пічэта займаўся даследваннямі гісторыі Беларусі, цікавіўся нашай культурай, літаратурай. У 1918 годзе ён прачытаў курс лекцый па гісторыі нашага краю ў Беларускім народным універсітэце у Маскве. У свой час удзельнічаў у стварэнні, а крыху пазней быў абраны старшынёй Беларускага культурнага Таварыства. Уваходзіў да складу камісіі садзеяння арганізацыі ўніверсітэта ў Беларусі. У 1920 годзе такіх камісій існавала дзве: маскоўская і менская. Па прапанове тагачаснага ўрада БССР з кастрычніка 1920 года У.Пічэта ўзначаліў маскоўскую камісію, а ўжо 27 снежня таго ж года ён прыбыў у Менск і далей працягваў працу па стварэнні БДУ. Гэта была вельмі цяжкая праца, яна запатрабавала вялікага напружання, выключных творчых і фізічных сіл.

У ліпені 1921 года Уладзімір Іванавіч Пічэта назначаны рэктарам Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. 30 кастрычніка распачаліся першыя заняткі.

Прафесар Уладзімір Пічэта чытаў у БДУ лекцыі па гісторыі Беларусі, гісторыю народнай гаспадаркі БССР, гісторыі расейскага і беларускага права. Праводзіў семінарскія заняткі па гэтых прадметах. Прычым шэраг лекцый чытаў на беларускай мове, на ёй жа, пасля таго як авалодаў, стаў пісаць навуковыя працы.

Акрамя выкладчыцкай дзейнасці Уладзіміру Іванавічу неабходна было займацца арганізатарскай дзейнасцю.

Пачынаць прыходзілася з нуля. У горадзе не было ні спецыяльна прыстасаваных будынкаў, ні навуковай бібліятэкі, ні абсталяваных лабараторый, ні — самага галоўнага — дастатковай колькасці педагагічных кадраў. Праблемаў хапала, але і жадаючых вучыцца было вельмі шмат. На першы курс было залічана 1390 чалавек. А яшчэ былі такія цяжкасці: як матэрыяльныя ўмовы студэнтаў і выкладчыкаў, адсутнасць паліва, інтэрнатаў.

Прыкладам да рэвалюцыі ў Менску існавала 7 гімназій (2 мужчынскія і 5 жаночыя), дзве прагімназіі, камерцыйнае і два рэальныя вучылішчы, духоўная семінарыя, духоўныя (мужчынскае і жаночае) вучылішчы і настаўніцкі інстытут. Частка гэтых будынкаў была перададзена універсітэту. Кнігі для камплектавання бібліятэкі часткова былі канфіскаваны у "былых", часткова вернуты са сховішчаў РСФСР і Украіны.

У кастрычніку 1926 года споўнілася 25 гадоў навуковапедагагічнай дзейнасці Уладзіміра Пічэты. Урад БССР захацеў адзначыць гэтую дату і вырашыў зацвердзіць ганаровае званне "Заслужаны прафесар БССР" ды прысвоіць яго Уладзіміру Іванавічу.

Прафесар У.І.Пічэта працягваў сваю навуковую дзейнасць. У 1926 годзе Інстытут беларускай культуры, у стварэнні якога галоўная роля належала Уладзіміру Іванавічу (студзень 1922 года) выпусціў па ініцыятыве старшыні гісторыкаархеалагічнай секцыі Пічэты юбілейны зборнік прысвечаны 400-годдзю з'яўлення друкаванай кнігі на Беларусі. У кнігу ўвайшлі наступныя працы навукоўца: "Полацкая зямля на пачатку XУI стагоддзя", "Друк у Беларусі у XУI і XУII стагоддзях", "Scoriniana". У матэрыялах зборніка распавядалася пра дзейнасць вялікага асветніка, які на некалькі дзесяцігоддзяў апярэдзіў рускага першадрукара Івана Фёдарава.

У другой палове дваццатых гадоў распачаўся працэс ганення беларускага слова, беларускай думкі, працэс знішчэння беларускага культурнага і навуковага асяроддзя.

У 1928 годзе другі сакратар ЦК Кампартыі Беларусі В. Спорын кіне "важкі камень" ў асобу прафесара: "Для пралетарыяту права на беларускую мову вынікае зусім не з таго, што жыў і працаваў на беларускай мове сярэдневяковы манах Скарына, а ад рэвалюцыйнага раўнапраўя ўсіх народаў..."

Гэта быў пачатак знішчэння усялякага раўнапраўя.

Ужо ў 1927 годзе У.Пічэту здымаюць з пасады рэктара БДУ. Але ён застаецца прафесарам.



Пачынаюцца змрочныя часы. Злосныя нападкі на вядучых гісторыкаў Беларусі. Прыкладам, у адной рэзалюцыі Таварыства гісторыкаў - марксістаў Беларусі адзначалася, што "больш або менш прыкрытая ідэалогія контрэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму і вялікадзяржаўнага шавінізму была пануючай у гісторыі Беларусі".

13 верасня 1930 года прафесара Пічэту арыштоўваюць.

Абвінавачванні самыя недарэчныя: у беларускім дзяржаўным нацыяналізме, празаходняй арыентацыі і вялікадзяржаўным шавінізме.

Затым быў скоры суд і высылка ў Вятку, дзе навуковец з сусветным імем працаваў нармоўшчыкам і табельшчыкам.

Свайму неспадзяванаму вызваленню з гулагаўскіх смяротных абдымкаў ён абавязаны міністру замежных спраў Чэхаславакіі: Эдуарду Бенешу, які пад час візіту ў СССР пацікавіўся ў Сталіна, дзе зараз знаходзіцца знакаміты вучоны-славіст прафесар Пічэта, а то ходзяць чуткі, што ён арыштаваны і яго нават няма ў жывых.

Праз некалькі дзён прафесара Пічэту вярнулі ў Маскву, уручылі пасведчанне члена-карэспандэнта АН СССР ды арганізавалі сустрэчу з Бенешам.

Надалей з 1934 года па 1935 Уладзімір Іванавіч працуе прафесарам Варонежскага педагагічнага інстытута, чытае курс гісторыі СССР. 26 красавіка 1935 года ён быў датэрмінова вызвалены, атрымаў пашпарт і пераехаў у Маскву.

Уклад у станоўленне беларускай навукі і гісторыі акадэміка У.І. Пічэты значны і аб тым варта помніць

*Язэп Палубятка.*

# Ахвяраваў сябе роднаму слову

У беларускім нацыянальным руху, сярод змагароў — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Усевалада Ігнатоўскага, Вацлава Ластоўскага, Максіма Гарэцкага, Аляксандра Цвікевіча, Алеся Гаруна — за вольную, незалежную Бацькаўшчыну, пачэснае месца займае імя, на многія дзесяцігоддзі незаслужана забытае, забароненае, знявечанае бальшавікамі, Язэпа Юр'евіча Лёсіка. Навуковец, педагог, пісьменнік, грамадзянскі дзеяч. Усё гэта змясцілася ў адной асобе і ў адным чалавечым жыцці. Свой жыццяпіс Язэп Юр'евіч характызаваў адным беларускім словам, пяшчотным і ласкавым, сваім прозвішчам — Лёсік. Толькі наканавана было яму зведаць супярэчлівае, цяжкае і трагічнае жыццё. І ён ахвяраваў у роўнай ступені як сваёй Бацькаўшчыне, так і роднаму слову.

Асноўнае месца ў навуковых працах Язэпа Лёсіка займаюць пытанні мовы.

Бацькоўская мова была для гэтага чалавека перадусім. Яна, як тая зорка, вызначала яго жыццёвы шлях. З яго ініцыятывы ў 1918 годзе народны сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі прыняў пастанову аб апавяшчэнні беларускай мовы дзяржаўнай і абавязковай мовай Рэспублікі.

Лёс БНР, як і лёс аднаго з яго заснавальнікаў быў трагічны. Не паспеўшая стаць на ногі дзяржава была знішчана. І тыя, хто ствараў яе вымушаны былі шукаць прытулку ад бальшавіцкага інтарнацыялізму па-за межамі Бацькаўшчыны.

У тым жа 1918 годзе Язэп Лёсік у газеце "Вольная Беларусь", якую ён рэдагаваў, надрукаваў свой артыкул пра беларускі правапіс. У 1921 годзе пабачыла свет ягоная "Практычная граматыка беларускай мовы". Як не дзіўна бальшавіцкая "Звязда" ахрысціла гэты падручнік контррэвалюцыйным. Контррэвалюцыйным толькі з-за таго, што ён стаў першым падручнікам для шырокіх народных мас.

Потым была так званая амністыя савецкай уладай лідарам БНР, і шмат хто паверыў у бальшавіцкую шчырасць і стаў з такім жа імпэнтам працаваць у імя сваёй Бацькаўшчыны.

Язэп Лёсік, як ніхто, ведаў беларускую мову. І сведчаннем таму ёсць удзел у працы Акадэмічнай канферэн-цыі па рэформе беларускага правапісу і азбукі. На ёй Лёсік выступіў з дакладам: "Да рэформы беларускай азбукі" і "Да рэформы беларускага правапісу".

Палітыка "беларусізацыі" распачалася дзесьці ў 1924 годзе. Ужо на яе пачатку некаторыя мовазнаўцы, у тым ліку і Лёсік, усведамлялі некаторыя хібы ў "Беларускай граматыцы для школ" Бра-ніслава Тарашкевіча ад 1918 года.

У 1925 годзе Лёсік выступіў у часопісе "Полымя" з артыкулам "Неўстаноўленыя выпадкі нашага правапісу". Тым самым ён справакаваў навуковую дыскусію. Вынікам дыскусіі стала вышэй згаданая канферэнцыя, якая адбылася ў лістападзе 1926 года сумесна з Інстытутам беларускай культуры і Народным камісарыятам асветы.

Там жа навуковец прапанаваў выбухны **г** абазначыць **г'**, гукі **дз** і **дж** — праз **д** і **ж**, з "гачкам" на версе, замест **й** увесці **j**, на месцы **э** і **ы** выкарыстоўваць **е** і **u**. У правапісе Язэп Лёсік за замацаванне на пісьме галоўнага аканьня і яканьня, за нязьменнае напісанне злучніка і прыназоўніка ў незалежна ад таго, на які гук (зычны ці галосны) канчаецца папярэдняе слова. Менавіта ад Лёсіка зыходзіла прапанова адмовіцца ад абазначэння асыміляцыйнае мяккасці зычных.

Шмат у чым гэта былі занадта рэвалюцыйныя прапановы і большасць з іх на канферэнцыі прынятае не была.

Навуковец працягвае працаваць над падручнікамі і вучэбнымі дапаможнікамі для школ і тэхнікумаў. Ён самаадлана працуе ў імя беларускага народа, верай і праўдай служыць яго нацыянальнай справе. Палітыку практычна абыходзіць бокам.

Вось некаторыя кнігі вучонага : " Беларускі правапіс" , "Сынтакс беларускае мовы", " Практычнае граматыка беларускае мовы" і інш. У сваіх даследваннях Язэп Лёсік найперш распрацаваў правілы беларускага правапісу. У аснову правапісу быў пакладзены фанетычны прынцып напісання слоў. У сваіх працах вучоны пашырыў і дэталізаваў правіла напісання запазычаных слоў, якія вельмі сціпла



выкладзена ў "Граматыцы" Б. Тарашкевіча.

У канцы дваццатых гадоў распачала набіраць абароты кампанія барацьбы з "нацдэмамі". Не абмінула яна, дый не магла абмінуць акадэміка Лёсіка.

У ліпені 1930 года Язэп Юр'евіч паехаў на курорт у Мадэсту, каб паправіць здароўе якое адабрала ссылка ў 1911 годзе ў Сібір. Супрацоўнікі АДПУ знайшлі яго і тут ды адканваявалі ў Менск. Тут ён быў змешчаны ў турму, а ў доме распачаліся абшукі. Не знайшоўшы дастатковых правін для вынясення судовага выраку яго выслалі ў парадку адміністрацыйнага пакарання ў Паволжа: пяць гадоў высылкі ў Саратаўскую губерню. За ім рушыла жонка, якая ў Менску не знайшла працы і не атрымала пашпарт. Разам з ёй рушылі і дзеці.

Тэрмін ссылкі заканчваўся ў 1936 годзе, але не толькі ў Менску, але і ў іншых населеных пунктах акадэміку месца не знайшлося. Не ўзялі на працу і паблізу роднага кута — у Бранску і Навазыбкаве. На невялічкай станцыі Злынка пад Навазыбкавым яму прапанавалі пасаду настаўніка расейскай мовы і літаратуры. Праца не здавальняла і ён з сям'ёю пераязжае ў горад Аткарск Саратаўскай вобласці, дзе яму прапанавалі месца выкладчыка ў педтэхнікуме. Тут яго застае чарговая хваля арыштаў.

У 1940 годзе ён перадаў родным паштоўку дзе было напісана: "Жывіце без мяне ... Ваш тата". Потым ужо ўлады паведамілі: памёр ад туберкулёзу ў Саратаўскай турме № 2.

Вось так закончыў свой зямны шлях у далечыні ад Бацькаўшчыны яшчэ адзін сапраўдны сын.

*Язэп Палубятка*

# Бачу свой край, сваю матку-зямлю — Беларусь!

***Мой дом — прыволле звёзднай далі,***
***Арламі мераны абшар,***
***Дзе бітвы точаць ветраў хвалі***
***З сям'ёй глухіх калматых хмар.***

**Янка Купала.**

Маладзечаншчына — край, які стаў радзімай для многіх беларускіх паэтаў, пісьменнікаў, драматургаў. Тут нарадзіліся Тамаш Зан і Рак-Міхайлоўскі, Іван Козел і Янка Купала. А для Максіма Багдановіча і Ядвігіна Ш. гэтая зямля стала другой радзімай, тым астраўком, які запамінаецца на ўсё жыццё. І нельга, напрыклад, казаць пра М.Багдановіча і не ўспомніць Ракуцёўшчыну, якую паэт наведаў па прапанове сваіх віленскіх сяброў, калі прыязджаў на Беларусь у 1911 годзе. А ўспамінаючы Ядвігіна Ш., грэх не прыгадаць Радашковічы, дзе пісьменнік працаваў памочнікам аптэкара, і Карпілаўку, якая стала для яго родным домам, тым месцам, без якога немагчыма ўявіць поўную карціну жыцця і творчасці знакамітага беларускага пісьменніка.

А ў біяграфію паэта Валянціна Таўлая Маладзечна ўвайшло як месца, дзе паэт быў асуджаны ўладамі буржуазнай Польшчы на 8 гадоў турэмнага зняволення.

Вязынка стала радзімай народнага паэта Беларусі — Янкі Купалы. Тут, у ноч на свята Івана Купалы, і нарадзіўся бацька беларускага Адраджэння.

Я невыпадкова ўспомніў усіх гэтых людзей, справа ў тым, што ўсе яны цесна звязаны паміж сабой, а галоўнае — усе яны маюць дачыненне да Янкі Купалы: Максім Багдановіч — сябра паэта, Ядвігін Ш. — чалавек, які паўплываў на станаўленне светапогляду маладога і таленавітага Янкі Луцэвіча, а Валянцін Таўлай быў у 1945 - 47 гадах старшым навуковым супрацоўнікам і першым намеснікам дырэктара Літаратурнага музея Янкі Купалы — Уладзіславы Францаўны Луцэвіч, жонкі песняра.

І ўсё ж такі, свой аповяд я хачу павесці толькі пра адзін невялічкі куток шчодрай на выдатныя краявіды Маладзечаншчыны, пра маёнтак, назва якога паходзіць ад беларускага імя Яхім — Яхімаўшчына, дзе з восені 1906 да вясны 1907 года жыў і працаваў Янка Купала. Гэты маёнтак увайшоў у жыццё паэта як адно з месцаў знакамітай броварскай адысеі песняра, тут ён "зазнаў такога пекла, якога раней не меў", працуючы на бровары ў пана Любанскага памочнікам вінакура, тут, у Яхімаўшчыне, падчас працы разам з рабочымі на бровары, сустрэч з сялянамі гартавалася нацыянальная свядомасць юнага Купалы, нараджаліся дэмакратычныя светапогляды. Вось у гэтым маёнтку, які знаходзіцца ўсяго ў 20 кіламетрах ад Маладзечна, Купала складваўся як паэт, — тут ён рыхтаваў да друку свой першы паэтычны зборнік "Жалейка", тут ім былі напісаны знакамітыя радкі:

***К свабодзе , роўнасці і знанню***
***Мы працярэбім сабе след!***
***І будзе ўнукаў панаванне***
***Там, дзе сягоння плача дзед!***
***Там, дзе сягоння плача дзед!***

На жаль, унукі яшчэ і сягоння не могуць азвацца на сваёй роднай мове, відаць, нягледзячы на тое, што мінула амаль Сто год, беларуская мова шчэ некаму "дзіка". Але як можа быць чалавеку "дзіка" тая мова, тыя словы з якімі ён нарадзіўся і падрастаў, якой размаўлялі яго продкі. Атрымоўваецца, што за гэты час нічога не змянілася, што мы яшчэ жывём у пачатку 20 стагоддзя.

У Яхімаўшчыне, магчыма, Купала напісаў і гімн беларускага народа — верш "А хто там ідзе?", а таксама не менш значны верш "Гэта крык, што жыве Беларусь":

***А вот як не любіць гэта поле, і бор,***
***І зялёны садок, і крыклівую гусь!..***
***А што часам тут страшна заенча віхор, —***
***Гэта енк, гэта крык, што жыве Беларусь!***

А апавяданне часоў прыгону, пачутае Купалам ад селяніна В.Л.Парфёна, лягло ў аснову паэмы "Нікому". Апроч гэтага паэт напісаў тут, у Яхімаўшчыне, шэраг іншых вершаў, якія па сваёй значымасці не ўступаюць прыведзеным.

Працуючы на бровары, Янка Купала пазнаёміўся з Андрэям Посахам, які працаваў настаўнікам у пачатковай сельскай школе. Купала часта чытаў А.Посаху свае новыя творы, асобныя з іх, як казка "Розга і нагайка", нідзе не друкаваліся і, на вялікі жаль, не захаваліся. Пазней, калі Посах прымаў удзел у замежнай экскурсіі і наведваў Італію, то завітаў быў да Максіма Горкага, які ў той час там жыў. А.Посах расказаў яму пра Янку Купалу, а па прыездзе на радзіму адаслаў Максіму Горкаму зборнік паэта "Жалейка".

Вершы Янкі Купалы не згубілі сваей актуальнасці і ў наш час, як і раней яны напамінаюць беларусам, што беларус таксама мае прапва "людзьмі звацца".

Да нядаўняга часу ў Яхімаўшчыне напамінкам пра тое, што тут жыў і працаваў Янка Купала, былі толькі дзве мемарыяльныя дошкі, установленыя на будынку канторы (былая кантора бровара) саўгаса і на хаце, у якой жыў паэт. А ў студзені 1997 года тут быў створаны філіял музея Янкі Купалы "Яхімаўшчына", і зараз супрацоўнікі музея разам з мастаком працуюць над стварэннем экспазіцыі філіяла музея. І думаю, што ў хуткім часе, паклоннікі творчасці песняра змогуць даведацца пра жыццё і творчасць Янкі Купалы перыяду 1906 - 1907 гадоў больш дасканала, наведаўшы філіял у Яхімаўшчыне.

*Марцін Кухта*

